дырэкторыя сьцягвае верныя войскі.

**Францускі** прэм'ер Эрыё 19.XI заявіў у камісіі па загранічных справах, што франка-савецкія перагаворы пачнуцца ў Парыжы 10 студня 1925 г.

**Ангельскі** ўрад выслаў да ўраду **С. С. Р. Р.** ноту, якая ў стрыманым тоне кажа аб тым, што ангельскі ўрад упэўнены ў аўтэнтычнасьці пісьма Зіноўева. У ноце таксама ёсьць трэбаваньне ад бальшавікоў стрымацца ад камуністычнай агітацыі ў Англіі, таму што ад гэтага будзе залежаць далейшы лёс прыязных адносін.

У другой ноце гаворыцца, што новы ангельскі ўрад, разглядзеўшы англа-савецкі дагавор, ня можа прадставіць яго парлямэнту або каралю на ратыфікацыю.

## Авантура ці правакацыя?

4 лістапада 1924 г. на паседжаньні Польскага Сойму старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу п. В. Рагуля сказаў прамову, на якую лічым патрэбным яму адказаць. Перш за ўсё з прыкрасьцю павінны сьцьвярдзіць, што ў словах пасла Рагулі аб пануючых варунках на „крэсах" і аб палітыцы польскага ураду па беларускаму пытаньню ёсьць шмат горкае праўды. Варункі вясковага жыцьця на „крэсах" з паўвынятковым станам пагоршыліся; ня гледзячы на распачаўшыся вучэбны год і, прынятыя Соймам, языковыя законы, беларускія школы, ня толькі, не адчыпены, але ўсе заходы Часовай Беларускай Рады ў працягу двух месяцаў перад уладай, як цэнтральнай, так і мясцовай не далі да гэтага чаy рэальных вынікаў; усё знаходзіцца, пакуль што, ў стадыі проектаў, а жыцьцё йдзе ўперад. На гэтым карысным грунце агульнага незадаваленьня беларускага жыхарства, пакрыўджанага ў яго нацыянальных жаданьнях; на адсутнасьці да гэтага часу, ня гледзячы на грознае палажэньне „крэсаў", цьвёрдай і акрэсьленай палітычнай лініі да беларусаў; на грунце дрэннае адміністрацыі—агульнае хваробы „крэсаў" — *на гэтым*, падкрэсьліваем, праўдзівым грунце п. Рагуля будуе сваю шахермахерскую правакацыйную прамову. Так, палажэньне на „крэсах" бязумоўна дрэннае, гэта часта сцьвярджалі мы, гэта сцьвярджае навет *уся* польская прэса. Сцьвярджае гэта і пасол Рагуля, але лекі, якія ён прапануе, ня толькі дзіўныя, але і бязумоўна правакацыйна - праступныя. Што-ж прапануе „старшыня" Беларускага Пасольскага Клюбу, што радзіць ён сваймy нуроду, які паслаў яго ў Сойм, *Польскае* дзяржавы?

Ен зусім ясна і шчыра, а значыць і з ўсей адказнасьцю, прапануе нашаму няшчаснаму народу пайсьці на адкрытую рэвалюцыйную барацьбу з польскай уладай. Вось што ён кажа: „Наш народ сам свайго шчасьця каваль і ён будзе яго каваць, хоць бы палова яго была зьнішчана пры помачы судоў і бяз іх помачы"... Зразумела што ў гэтую палову зьнішчанага народу ня трапіць п. Рагуля, дзякуючы яго пасольскай незачэпнасьці. Далей ён гаворыць: „Цёмныя хмары на нашым небе народ наш разгоне ўласнай *сілай*"... Вось якія лекі прапануе пан пасол Польскага Сойму сваім выбаршчыкам. Ен не заклікае да цяжкае *пляновае* творчае працы, працы па аздараўленьню затручанай атмасфэры беларускіх зямель, у дадатак зьнішчаных войнамі, ён ня кліча да высілкаў к адбудове зруйнованых сялянскіх гаспадарак, (адбудоўваючы сваю ўласную за пасольскія дыеты!), ён ня шукае паразуменьня з тымі польскімі партыямі, якія, спачуваючы неабходным патрэбам беларускага народу, могуць памагчы ў рэалізацыі яго законных жаданьняў.

Пан пасол кліча адкрыта да рэвалюцыі, паўстаньня, хатняй вайны і анархіі, як пасьледзтваў гэтых вялікіх бедаў. Мы лічым, што пан старшыня Бел. Пас. Клюбу павінен добра зразумець усю адказнасьць, якую за сабой цягне гэты покліч да змаганьня *сілаю*. Кроў, шмат крыві, і больш беларускай, як польскай, пачне заліваць нашыя няшчасныя зруйнованыя землі. У хатняй барацьбе, ўва ўзаемнай помсьце, запраўды можа згінуць палова беларускага народу. Дапусьцім па адзін момэнт, што народ паўстане, дапусьцім, што ён панясе гэтыя цяжкія ахвяры крывёй і жыцьцём сваіх сыноў для таго, каб здабыць сабе лепшую будучыну. Зусім зразумела, што бяззбройны, неарганізованы, меншы лічбенна беларускі народ ня можа збройна выступіць проціў моцнай польскай арміі. Ці-ж ня ясна, як дзень, на чыёй старане будзе перамога і якія рэзультаты, якое „шчасьце" даць можа шалёнае выступленьне! Нават страшна і падумаць. Але мо' пан пасол не дагаварыў? Мо' ён мае на ўвазе, што беларусы будуць не адны ў змаганьні з палякамі? Мо' мае хто іншы падтрымаць паўстаньне, хто падтрымоўвае моральна (а мо' і ня толькі моральна) п. пасла пры гэтакіх яго прамовах? Мы радзілі-б пану паслу адкрыта і да канца дагаварыць, бо з народам жартаваць і гуляць ў „зайцы" нельга, а калі дагаварыць, дык значыць мець на ўвазе толькі бальшавікоў. Але гэта значыць—вайна з бальшавікамі. Бо зразумела што Польшча заходня-беларускіх зямель, сваіх „крэсаў", без вайны ніколі бальшавіком ня дасьць. А каму ня ведама, што бальшавікі ў сучасны момэнт фактычна ваяваць ня могуць, бо трашчаць самі ад эканамічнага краху, ад голаду, эпідэміі і гаспадарскае галіты (пазычкі не дае ніхто). А мо' п. пасол лічыць, што паўстаўшы беларускі народ падтрымае Ліга Нацыяў? Лічым, што прыклад з няшчаснай Грузіяй, у сваім часе прызнанай за сувэрэнную дзяржаву гэтай (з дазволу сказаць) Лігай, аканчальна і раз назаўсёды паказаў усяму сьвету, што гэта за Ліга і якая яе вартасьць.

Гэткім чынам, беларускі народ, які пайшоў-бы на покліч авантурніка з цёмнай палітычнай антыбеларускай прошласьцю, бязумоўна застаўся-б адзінокім ў сваёй барацьбе, з моцным гаспадарствам, якім зьяўляецца Польшча. Пры акрэсьліваньні гэтага ультра - авантурнічага, праступнага, шалёнага покліччу да паўстаньня, мы прывялі-б, для паралелі, адзін факт з недалёкай мінуўшчыны, які меў месца ў Радавай Расеі. Усе памятаюць проект Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту аб калёнізацыі паўдня Расеі, пераважна казацкіх зямель на-Доне і на Паўночным Каўказе, жыдамі з мэтай стварэньня жыдоўскай рэспублікі. На гэта адзін з жыдоўскіх пісьменьнікаў на шпальтах газэты „За Свободу" зазначыў, што гэты проект, высунуты самімі сябрамі жыдамі Ц. В. К., ёсьць вялізарнай незразумелай правакацыяй жыдоўскага народу, „бо, тлумачыў пісьменнік, — прыйдзе момэнт, калі бальшавіцкая ўлада ўпадзе і на месцы жыдоўскіх калёніяў застануцца попел і трупы ад нябывалага ўсяжыдоўскага пагрому". Гэтакай самай вялізарнай правакацыяй сьвядомай ці не — зьяўляецца прапанова пасла Рагулі. Мала п. паслу што, дзякуючы бясплоднай, няўмелай, няжыцьцёвай палітыцы свайго клюбу, ён і сам убіўся ў гэты тупік, і народ наш наражае на ўсялякія крыўды і абвінавачваньне яго ў агульным бальшавізьме. Добра паслу казаць, што няхай палова народу згіне бо самога п. пасла ніхто зачапіць ня можа, а калі нават ён і перабрэ трохі ў сваіх прамовах і трапіць у вастрог, дык ён пэўны, што таварышы з Масквы яго падтрымаюць і выкупяць. Але хто паруціцца аб нашым няшчасным селяніне, хто будзе апекавацца няшчаснымі сем'ямі загінуўшых бацькоў?

Мо' таксама бальшавікі?

Мы добра бачым іх апеку над сваім уласным народам, які гіне мільёнамі з голаду, ў той час як бальшавікі вывозяць хлеб за граніцу, каб мець грошы на пропаганду. Але голас п. Рагулі—ня ёсьць голас прарока. Гэта крык страціўшага палітычны грунт авантурніка. Ен надта рашуча прапануе беларускую рэвалюцыю, але гэты-ж самы Рагуля, гэтак-жа рашуча ў 1917 годзе з шабляй у руцэ, па загаду бальшавікоў, на чале бальшавіцкай банды, разганяў беларускі зьезд у Смаленску. І мы пэўны, што беларускі народ пасвоему ацэніць усю вартасьць дэмагогічных выступленьняў п. Рагулі. *N. B.*

## Агляд прэсы.

### Крэсовыя балячкі.

„Robotnik" у перадавым артыкуле „Głos z Kresów" войстра крытыкуе пануючыя парадкі на нашай зямлі. Пачынаючы ад *старых* часоў — 1919 году, газэта піша:

> ...У гэтым годзе вайны маладая наша армія йшла, як бура, на ратунак усходніх акраін Рэчыпаспалітай, гарэўшых у крывавым бальшавіцкім полымі. Зьбянтэжаны й напалоханы забойца ўцякаў у далёкія сьцяпы „матушкі Расеі". Вызваленае насяленьне на каленах багаславіла пераможцаў. Паляк, Русін, Жыд, бачачы аддятаўшую сьмерць, шалеў з радасьці...
>
> Але рана яшчэ было цешыцца, дзеля таго, што вось за геройскай арміяй ішла, скрадаючыся, другая армія, армія гіенаў і шакаляў, і тады як першая граміла бальшавікоў, другая—сваей поцлай нагой пачала душыць мясцовае насяленьне...

Далей аўтор ад'значае, што важнейшыя адміністрацыйныя пасады на Крэсах занялі людзі, якія мелі добрую славу ў абшарнікаў і ксяндзоў. Гэткім чынам, пасады старастаў занялі земляўласьнікі і іх даверaныя — эканомы, rządcy, gumienni і г. п.

Аўтор дае ў канцы свае рады на крэсовыя балячкі.

> ... Зьменшыць норму падаткаў для Крэсаў, узяўшы пад увагу, што Крэсы зусім зьнішчаны. Дыкжа немагчыма, каб селянін, які уцёк з Бальшавізіі і знайшоў на сваёй зямлі пустыр, мог плаціць гэткія падаткі, якія плаціць селянін з Пазнаншчыны, якога вайна не зруйнавала, але ўзбагаціла..
>
> Сотні тысячаў людзей, радзіўшыхся тут на крэсах, зусім лёяльных, ня могуць, ня гледзячы на ўсе стараньні, адтрымаць obywatelstwo, і гэткім чынам трацяць права працы...
>
> Не зачыняйце цэркваў, пабудованых праваслаўным насяленьнем. Што каму шкодзіць, што насяленьне хоча маліцца ў сваёй царкве?
>
> Распарцэляваць усе маёнткі, акія маюць больш за 50 гэкт.
>
> Зрабіць рэформу ў староствах, выкінуўшы людзей непатрэбных і шкодных.
>
> Самаўрады павінны быць самаўрадамі ня толькі па сваёй назове, але й па зьместу, бо-ж навошта гэтая камэдыя?
>
> З судоў выкінуць партыйнасьць, несправядлівасьць і тых, хто ў гэтым напрамку паказаў сябе...

А „Gazeta Warszawska", ад'значыўшы факт, што:

> . .Ува усходніх ваяводзтвах адносіны ненармальныя, анархія пашыраецца ўсё болей, польскае насяленьне жыве ў бязупынным неспакойстве, а насяленьне рускае (украінскае?—*Рэд.*) і беларускае траціць пашану для польскай дзяржавы,

робіць гэткі вывад:

> ...Хто ўсё гэта бачыць, той павінен зразумець, што першае заданьне польскай дзяржавы ў цяперашні мамэнт утрымаць лад і парадак на ўсходніх землях. Маем перад сабой колькі месяцаў часу, бо зімовая пара ня спрыяе паўстанскай рабоце. Трэба іх выкарыстаць, каб загадаць неабходныя спосабы дзеля ўтрыманьня ладу і парадку...

А дзеля гэтага „Gaz. Warszawska" раіць сваё:

> Урад павінен зрабіць вынятковыя загады, якіх вымагае паваж-

---

Маленькая лямпа з рожавым абажурчыкам слаба асьвятляла пакой . . .

Дзяцюк стаяў на каленах перад зьдзіўленай дзяўчынай і, прытуліўшыся да яе ног, цалаваў яе рукі, паўтараючы адно :

— Выбачай . . . вы выбачайце . . . што я . . . я такі подлы . . . выбачай . . .

— Але чаго вы ? Ну, супакойцеся, што вы ?— дзівілася яна, вырываючы ад яго свае рукі.

„Крыўда ! Сталася крыўда ! — крычаў у душы хлапца таёмны голас. — Я скрыўдзіў ! Крыўда ! "..

— Ох, які я нягоднік ! . . Дарагая ! выбачай ! . .

Ня страціўшы сьвядомасьці аб тым, дзе ён, у той-жа час ён адчуваў, што апляваў сьвятыню, што разьбіў крыштальную вазу, ў якой перахоўвалася з вялікай пашанай нешта дарагое і гэтае *Дарагое* ён кінуў у гразь, у бруд вулічнага каналу.

Сталася крыўда ! Дзе ? каму ? як ? — Ен меў перад сабой толькі адзін людзкі об'ект, і перад ёю—дзяўчынай люпанару — ён скардзіўся на сябе самога, на крыўду свае душы . . .

— Выбачай, Дарагая ! . .

І цалаваў рукі, і туліўся да дзявочых кален, як туліўся-б да свае Душы, калі-б яна стала перад ім у чалавечай постаці . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Мусіць вы шмат выпілі сягоньня ? — спыталася пры разьвітаньні.

— Шмат.

— Есьць п'яныя, каторыя скандаляць, а іншыя плачуць . . . Да мяне прыходзе часта адзін, і, як п'яны, дык заўсёды плача . . .

Іншыя . . . Прыходзяць . . . Колькі іх ? Сотні ? Тысячы ? . . Колькі іх ужо было ? Колькі іх будзе ? . . А іншыя плачуць . . . Ха-ха-ха ! Плачуць ! Можа таксама, як я . . . Але чаго я, далібог ? Не разумею ! Мусіць запраўды я зашмат выпіўшы . . .

Выйшаўшы з таварышам на вуліцу, ўжо стыдаўся сваіх нядаўніх перажываньняў.

— Ну, што ? як ? . . — спытаўся старшы.

— Нічога . . .

— Як-жа табэ тут спадабалася ?

— Дык я тут ня першы раз . . . Для мяне не навіна ! . . Я тут, як свой чалавек . . .

**Эдмунд Бурбэкль.**

Вільня.
15. VIII. 1923.

*(Канец).*

нае палажэньне. У гэтых абставінах мае асабліваe значэньне назначэньне новага міністра ўнутраных справаў, які мае перад сабой задачу ўвясьці лад і парадак на ўсходніх землях.

„Kurjer Polski" таксама спадзяваецца нечага ад зьменаў у міністэрстве:

> Палітык, які будзе старацца аб дабро нашых крэсаў ад першага дня свае дзеяльнасьці, будзе змагацца з перашкодамі няўдачнага заканадаўства і з бязглуздым выкананьнем уставаў, навет добрых і неабходных. Стане перад ім уся нэндза нашага няшчаснага вайсковага асадніцтва, рэзультаты спыненьня ўсялякіх зямельных рэформаў, усялякіх аграрных опэрацыяў, камасацыяў, рэгуляваньня сэрвітутаў і г. п. опэрацыяў, якіх разумнае і энэргічнае правядзеньне ёсьць адз'ін з важнейшых варункаў палітычнага супакоеньня крэсаў…

I „Kurjer Poranny", бядуючы над палажэньнем на Крэсах, таксама спадзяецца паляпшэньня ад рэконструкцыі габінэту міністраў:

> …Унутраная адміністрацыя была зморана, ашаломлена, незарадная. Над крэсовай тэрыторыяй шалела хваля бандытызму… Устанаўленьне пасады віцэ-прэзэса Рады Міністраў падае надзею, што будзе выразная палітычная лінія…

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Вежа часоў цара Давіда.

З Ерусаліму паведамляюць, што вядучы раскопкі ў Палястыне супрацоўнікі прафэсара Макалістэра недалёка ад гораду Давіда каля гары Офэль знайшлі Салямонаву вежу ў 40 футаў вышыні. Вежа мае два бастыёны і з яе адкрываецца цудоўны від. Уся будыніна ўкрыта плястычнымі малюнкамі ў стылі цара Давіда. Рэзультаты раскопак зрабілі вялікае ўражаньне па ўсёй Палястыне. Да вежы сходзяцца турыстыя з усіх канцоў краю. Урад рыхтуецца захаваць вежу, як нацыянальны памятнік.

### Аб шляхоцкіх тытулах.

Францускі міністар справядлівасьці падаў у парлямэнт законапроект аб забароне ўжываньня шляхоцкіх тытулаў у афіцыяльных дакумэнтах. У часе трэцяе рэспублікі, калі было спынена надаваньне шляхоцтва, дык насіцелям шляхоцкіх тытулаў, якія маглі дакумэнтальна даказаць сваё на гэта права, было пазволена карыстацца імі ўва ўсіх выпадках, не вылучаючы й афіцыяльных. А тэй шляхце, якая не магла даказаць сваіх шляхоцкіх правоў, было забаронена карыстацца сваімі тытуламі на дзяржаўнай службе, як ваеннай, так і цывільнай. Паводлуг даных, апублікованых у 1877 г. у кнізе Башдэн-дэ-Флёрэнна ў Францыі было тады каля 60.000 тытулованых асобаў, з якіх каля 100 князёў, 2.500 гэрцогаў, 5.000 маркізаў, 12.000 графоў і па 5.000 віконтаў ды баронаў. Аднак-жа віконт дэ-Ройэ даказаў, што з усіх сем'яў, якія прэтэндуюць у Францыі на шляхоцкія тытулы, прынамсі, 25.000 ня маюць на гэта ніякае асновы.

### Унівэрсытэт - небаскрэб.

Канцлер унівэрсытэту ў Пітсбургу (Амэрыка) апублікаваў проект збудаваньня унівэрсытэту - небаскрэбу. Вышыня будынку мае быць 680 футаў, гэта знач. ён будзе трэцім па вышыні будынкам у Злучаных Штатах, даўжыня—360 футаў, а шырыня—260 футаў (7 футаў складаюць адзін сажань). У будынку будзе ў руху 16 быстраходных віндаў, якімі будуць перавозіцца 12.000 студэнтаў у лябораторыі, бібліятэкі, аудыторыі і г. д. Расходы на будову аблічаны ў разьмеры 10.000.000 даляраў.

### Хваробы даўнейшага Эгіпту.

Як прасачыў ангельскі вучоны — эгіптолёг Сміт, на эгіпэцкіх муміях знаходзяцца зьмены арганізму, якія сьведчаць аб тым, што ў старадаўнім Эгіпце былі распаўсюджаны шмат якія хваробы з тых, якімі хварэе й цяперашняе чалавецтва. Гэтак, напрыклад, на муміі аднаго з фараонаў устаноўлены азнакі артэрыясклерозу, ў другога знойдзены сьляды высыпкі на целе, якая мусі адпавядала цяперашняй воспе. На іншых муміях, якім цяпер ужо каля 6.000 гадоў, выкрыты азнакі раку, рэўматызму і іншых хваробаў. Вэльмі рэдка трапляецца тубэркулёз (сухоты), блізу што на аднэй з тысячы муміяў, што тлумачыцца проста эгіпэцкім кліматам. Настолькі рэдкім зьявішчам была таксама і праказа.

### Паветраны шлях Масква—Парыж.

Таварыства „Дэрулюфт" увайшло ў паразуменьне з нямецкім Аэролёйдам і голяндзкім паветраным таварыствам аб арганізацыі простае паветранае камунікацыі паміж Масквою і Парыжам. Аэропляны будуць вылятаць з Масквы а 7 гадзіне раніцай і прылятаць у Кэнігсбэрг (у Нямеччыне) а 5½ гадз. ўвеч. З Кэнігсбэргу пасажыры выяжджаюць начным пасьпешным поездам і прыяжджаюць а 7 гадз. раніцай у Бэрлін на вакзал Фрыдрыхштрасэ. Адкуль самаходамі на аэродром Стаакэн, адтуль вылятаюць а 8 гадз. 30 мін. раніцай. А 2 гадз. ўдзень аэроплян спушчаецца ў Амстэрдаме, цераз гадзіну вылятае і а 6 гадз. 30 мін. увечары прылятае ў Парыж.

# У С. С. Р. Р.

### Страшэнныя пажары ў Петраградзе.

У почы з 18 на 19 лістапада, як відаць з маскоўскіх тэлеграмаў, быў вялізарны пажар на быўшым млыне Модраха. Згарэлі вялізныя запасы збожжа і мукі, моцна папсованы самы будынак млына. У тушэньні пажару бралі удзел 43 арганізацыі ўсіх пажарных аддзелаў. Пажар бушаваў цэлую ноч. Страты мільённыя.

Другі пажар адбыўся ў будынку ваеннага шпіталю. Будынак гэта стары. Ен ня вытрымаў напору магутных вадзяных струяў, выкіданых помпамі; столь абвалілася і пахавала пад сабою больш як 30 пажарнікаў. Іх удалося выцягнуць з-пад абломкаў, але моцна пакалечанымі. Прычына пажару ня высьнена.

### Барацьба палітбюро з Троцкім.

Паводлуг вестак, адтрыманых праз Рыгу, ў маскоўскіх камуністычных арганізацыях 15 лістапада рухава абмаўлялі даволі бурнае паседжаньне палітбюро 12. XI з прысутнасьцю Троцкага. На гэтым паседжаньні, Зіноўеў патрэбаваў ад Троцкага конспэкту яго прамовы, якую апошні замерваўся сказаць на VI усерасейскім зьезьдзе прафэсіянальных саюзаў. Да трэбаваньня Зіноўева далучылася й рэшта сяброў палітбюро, за выняткам Каменева. Троцкі рашуча адмовіўся пазнаёміць палітбюро з праграмаю свайго выступленьня на VI усерасейскім зьезьдзе прафэсіянальных саюзаў. Вельмі магчыма, што, можа выступленьне Троцкага не адбудзецца, або ён згодзіцца на цэнзуру свае прамовы ўсімі сябрамі бюро Цэнтральнага Камітэту расейскае камуністычнае партыі.

### Запрос аб 2-х прапаўшых дэлегатах.

Маскоўская рабочая група ў сваёй лістоўцы, выпушчанай 15 лістапада, запрашавае Зіноўева і Сталіна аб лёсе двух дэлегатаў Корягіна і Маркава, выбраных на VI усерасейскі зьезд прафэсіянальных саюзаў ад уральскіх хімікаў і мэталістых, якія выехалі 8 лістапада з Екацерынбурга і да 12 лістапада яшчэ ня прыехалі ў Маскву. Запрос канчаецца заяваю, што рабочая група можа памагчы Зіноўеву ў шуканьні Корягіна і Маркава, бяз сьледу зьнікшых з паштовага поезду, пасьля кантролю апошняга агентамі ГПУ па тэлеграме палітбюро ад 6 лістапада Екацерынбурскаму камітэту камуністычнае партыі. Срок на адказ даны трохдзенны. Лістоўка была распаўсюджана паміж дэлегатамі VI усерасейскага зьезду прафэсіянальных саюзаў і рабочымі арганізацыямі Масквы.

З гэтага ўсяго відаць, якая „дыктатура **над** пролетарыятам" істнуе ў бальшавіцкай дзяржаве!

### Зьезд беларускіх уцекачоў.

„Руль" піша:

— З Масквы адтрыманы ў Варшаве весткі, што там адбыўся **зьезд беларускіх** уцекачоў з усходніх акраін Польшчы. Было пастаноўлена вясьці з польскімі ўладамі упартую барацьбу на беларускай тэрыторыі. Зьезд выказаў надзею, што ў будучым годзе беларускія землі Польшчы будуць прылучаны да Радавай Беларусі (?).

— Якое кола, такі і млын, — кажа прыказка.

I бальшавіцкае кола змушае няшчасную беларускую галіту абяздоленых уцекачоў круціцца ў заведзеным бальшавікамі кірунку!

### Петраград гіне.

У Петраградзе 13 лістапада адбылася экстрэная нарада аддзелу камунальнай гаспадаркі па кватэрных будынках. На нарадзе выясьнілася, што 80 проц. дамоў, даўшых шчэліны, пацярпелі ад быўшае паводкі. Палажэньне прызнана над'звычайна цяжкім, з прычыны раптоўных, якія адбываюцца, абвалаў з чалавечымі ахвярамі. Тэхнічна-будаўнічай камісіі загадана ў найкарацейшы срок выпрацаваць папераджальныя меры проці абвалаў і падрыхтавацца да капітальнага рэмонту з вясны 1925 году.

## Навіны ў тры радкі.

— Фінляндзкі ўрад падаўся ў адстаўку.

— У Гданску паказаліся фальшывыя ангельскія банкноты ў 1 фунт штэрл.

— У Бэрліне скончылася забастоўка на пад'земных чугунках.

— У Лодзі праф. саюз валакнянае прамысловасьці патрэбаваў 25% прыбаўкі.

— Выдача прэміяў Нобэля адбудзецца 10. XII. Літэрацкая прэмія раўняецца 120.000 швэдзк. кронам або 160.000 злот.

— Францускі сэнат 176 галасамі проці 64 прыняў, амністыю за дзеяньні, якія маюць азнакі галоўнае здрады.

— Гэтымі днямі закончана новая тэлефонная лінія Лодзь-Гданск.

— У Берасьцейскім павеце арыштована камуністычная ячэйка і аддана пад суд.

— Камісіі Латвійскага парлямэнту разглядаюць цяпер проект адлучэньня царквы ад дзяржавы.

— У некаторых губэрнях С.С.Р.Р. чума выкасіла каля 1.200.000. ахвяраў.

— Польскі гэнэрал Шэптыцкі цягнецца пад суд за дуэль з рэдактарам Стпічынскім.

— Францускі парлямэнт 340 галасамі проці 60 асыгнаваў 650.000 франк. на перанос у Пантэон цела Жорэса.

— Ангельскія ўлады прапануюць 100.000 залатых рублёў таму, хто знайдзе забойцаў гэн. Стэка.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Паведамленьне Камісара Ураду.** Камісар Ураду на м. Вільню падае да агульнага ведама, што ўсе асобы, якія маюць законнае права на вядзеньне будаўляных работ, павінны зарэестравацца да 30 гэт. месяца ў Камісарыяце Ураду на м. Вільню (пакой 2, ад 11—1 гадз.) з мэтаю ўхіленьня ад непаразуменьняў пры зацьверджаньні плянаў самаўрадовымі ўладамі. Пры рэестрацыі трэба злажыць нотарыяльныя копіі дакумэнтаў, якія даюць права на вядзеньне будаўляных работ.

**(—) К. Вімбор.**
Камісар Ураду на м. Вільню.

= **Адбой.** „Dziennik Wileński" піша аб цікавым прызнаньні камуністычнае партыі Заходняй Беларусі, што дывэрсійныя напады ў нашым краі аказаліся вельмі няўдачнымі. Цэнтральны камітэт партыі абвяшчае пераход на славесную пропаганду і аднаўленьне нелегальнага „Краснаго Знамени", якое выдавалася падчас бальшавіцкага наезду ў Вільні, толькі цяпер яно мае называцца пабеларуску—„Чырвоны Сьцяг".

= **Абмен марак.** 1-га сьнежня старыя польскія маркі можна будзе абменьваць толькі ў Цэнтральным Польскім Банку.

= **Афэра.** 24-га лістапада на Завальнай вуліцы зрабіўся ахвяраю трох афэрыстых прыехаўшы з Маладзечна Віцэнты Захарэвіч, якому прадалі замест сукна папяровы матар'ял. За гэты тавар Захарэвіч заплаціў 200 злот.

= **Камітэт барацьбы з дарагоўляю.** На сягоньня назначана паседжаньне камісіі спэцыялістых дзеля устанаўленьня таксы для рэстаранаў і прачкарняў, на 28 лістап.—для мяснога і кілбаснага гандлю і 29 ліст. для пякарняў і млыноў.

= **Настаўніцкі зьезд.** У хуткім часе ў Вільні мае адбыцца зьезд настаўнікаў-беларусаў, які склікае Часовая Беларуская Рада дзеля утварэньня арганізацыі, якая ведала-б справамі закладаньня беларускіх школаў.

Зарэестрованыя ў Школьнай Камісіі Час. Белар. Рады настаўнікі будуць запрошаны на зьезд пісьменнымі павесткамі.

— **Настаўніцкія курсы.** У хуткім часе ў Вільні адкрываюцца каротка-срочныя курсы для настаўнікаў-беларусаў з поўным утрыманьнем для курсантаў.

Рэдактар - Выдавец **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.